


АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА | РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

22 сакавіка 2000 года
Цана 70 рублёў

№ 12 (2674)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года


## СПАДЧЫНА



Францішак БАГУШЭВІЧ.

Бягучы год для беларускай культуры багаты на юбілеі. А для некаторых, прыкладам, для Францішка Багушэвіча, сёлетні год стаўся двойчы юбілейным: сто шасцідзесятая гадавіна з часу народзінаў і сто гадоў, як вялікі пясняр пайшоў у вечнасць. З імем Францішка Багушэвіча мы найперш звязваем пачатак свайго духоўнага адраджэння. Усёй сваёй грамадскай і творчай дзейнасцю ён дапамог нашаму народу вярнуць генную памяць. Францішак Багушэвіч разам з іншымі беларускімі прарокамі вёў Беларусь да дзяржаўнасці. Таму пашана яму асаблівая. Таварыства беларускай мовы сёлетні год абвясціла годам Францішка Багушэвіча. А ўрад Беларусі прыняў спецыяльную праграму для ўшанавання імя выдатнага нацыянальнага літаратара. "Голас Радзімы" таксама мяркуе расказваць пра невядомыя і мала вядомыя старонкі з жыцця аўтара "Дудкі Беларускай".

**Уладзімір СОДАЛЬ.**

## "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ" — 45

РАСІЯ

Трэба заўсёды памятаць, як казаў нехта з "мудрых", што кожны з нас "ёсць не пачатак, а працяг..." Вось за маю беларушчыну трэба аддаць падзяку настаўнікам па прафесіі, беларусам-адраджэнцам 20-х гадоў бацькам Алесю і Вользе Сабалеўскім (бацька гісторык-выхаванец БДУ і вучань Пічэты, Доўнар-Запольскага і іншых), што змаглі з дзяцінства закласці на ўсё жыццё зерне беларушчыны ў маё сэрца, прывіць любоў да сваёй малой радзімы — Глыбокага, славутага багатай і драматычнай гісторыяй. Потым прыйшлося самому многае спасцігаць у жыцці і праз драматычныя, крывавыя для нашай Бацькаўшчыны падзеі, сведкам якіх давялося быць, і праз вывучэнне беларускай гісторыі і асабліва творчасці нашага песняра Янкі Купалы.

З 1951 года жыву ў рускамоўным асяроддзі за межамі Беларусі — спачатку ў Харкаве, а з 1952 года ў Маскве, але лучнасці з Беларуссю не губляў ніколі, штогод прыязджаў на Бацькаўшчыну.

Сталым чытачом "Голасу Радзімы" стаў з 1989 года, калі Вячаслаў Рагойша пазнаёміў мяне з Аляксеем Каўкам і я з захапленнем далучыўся да жыцця беларускай суполкі імя Францішка Скарыны ў Маскве. У той час газета была сапраўды беларускай па духу, цікавай як па зместу публікацый, так і па складу аўтараў.

Пасля "славутага рэферэндуму" пачаўся сапраўдны лінгвацыд, што адбілася на публікацыях у газеце, яна пачала губляць свой твар, заставацца адно толькі беларускамоўнай.

Але нягледзячы на такі стан, на пачатку 90-х гадоў па ўсёй Беларусі далучылася да беларушчыны шмат адукаваных, энергічных і ў большасці сваёй маладых людзей. Частка з іх, як і раней, актыўна ўдзельнічае ў справе беларускага адраджэння, другая — адышла ўбок па розных прычынах. Затое час гэты дапамог многім з тых людзей акрэсліць сваю самасвядомасць і стаць больш вольнымі духоўна, аб чым сведчаць вынікі ўсебеларускага перапісу.

— Заканчэнне на 3-й стар. —

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ




Сусветна вядомы міжнародны інстытут па сертыфікацыі NEMKO (Нарвегія) выдаў сертыфікат адпаведнасці тэлевізараў маркі "HORIZONT" патрабаванням усіх абавязковых міжнародных дырэктыў. Прысваенне сертыфіката — гэта ўжо прызнанне не толькі на рынку СНД, але і на сусветным.

НА ЗДЫМКУ: генеральны дырэктар ВА "Гарызонт" Уладзімір СЯМАШКА дэманструе атрыманы сертыфікат.

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

## БІЗНЕС-КЛУБ

# ЗАПРАШАЕ «СЫТЫ ТАТА»

**Кафэ пад такой сімпатычнай назвай размясцілася ў самым людным месцы Мінска — перад уваходам на Камароўскі рынак. Але сваёй папулярнасцю яно абавязана не толькі гэтаму. Добрую славу кафэ здабыла найперш яго цудоўная кухня. Аматарамі фірменных страў "Сытага таты" прызнаюць сябе многія вядомыя беларускія артысты, спартсмены і нават высокапастаўленыя замежныя госці.**

**Нядаўна "Сыты тата" адзначыў свой сёмы дзень нараджэння. Сёння пад гэтай назвай дзейнічае ўжо цэлая сетка прадпрыемстваў: кулінарыя "Добрая гаспадынька", піўны бар "Ячны вус", нядаўна адкрылася і новае кафэ. Цікава, што яшчэ 10 гадоў назад Марыя ПЕРЧАН, дырэктар кафэ "Сыты тата", не мела да бізнесу ніякага дачынення: працавала ў школе выкладчыцай рускай мовы і літаратуры.**

— Заканчэнне на 3-й стар. —





*Марыя ПЕРЧАН.*

## СПОРТ



**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

**ФРЫСТАЙЛ.** Імёны беларускіх майстроў фрыстайла ў акрабатычных скачках, такіх, як бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў у Нагана Дзмітрый Дашчынскі, пераможцы і прызёры розных міжнародных спаборніцтваў Аляксей Грышын, Дзмітрый Рак, Васіль Вараб'ёў і Ала Цупер, вядомыя ва ўсім свеце. Так што хлопцам са спартыўнай дзіцячай школы Алімпійскага рэзерву ёсць на каго раўняцца. Больш за сто юных выхаванцаў пад кіраўніцтвам старшага трэнера школы заслужанага трэнера Беларусі Уладзіміра Дашчынскага (на здымку ў цэнтры) удасканальваюць сваё майстэрства ў Раўбічах.

**АКАДЭМІЧНАЯ ГРЭБЛЯ.** У Іспаніі завяршыліся спаборніцтвы на "Кубак FISA" па акадэмічнай грэблі. Кацярына Карстэн не пакінула сваім сапернікам ніякіх шанцаў, атрымаўшы дзве ўпэненыя перамогі на дыстанцыях 500 і 1000 метраў. Два бронзавыя медалі прынёс нашай камандзе Андрэй Пляшкоў. Кацярына Карстэн атрымала асабістае запрашэнне для ўдзелу ў "Кубку Тэмзы", які будзе праходзіць у Англіі 24 сакавіка.

**ГІМНАСТЫКА.** На традыцыйным турніры "Зоркі свету", які прайшоў у Маскве, беларускім гімнастам дасталіся чатыры медалі. У фіналах у асобных практыкаваннях пад апладысменты балельшчыкаў першынствавалі Аляксандр Шостак (золата ў практыкаванні на кані і серабро на брусах), Дзяніс Ананька (бронза ў вольных практыкаваннях) і Іна Паклонская (другое месца ў апорным скачку).

**ФУТБОЛ.** Нацыянальная зборная Беларусі па футболу адкрыла сезон. З лікам 3:0 на карысць нашай каманды закончыўся таварыскі матч з нямецкім клубам "Штутгарт". У гэтым годзе ў рамках адборачнага турніру чэмпіянату свету Беларусь згуляе тры матчы: з камандамі Уэльса, Польшчы і Арменіі. У працэсе падрыхтоўкі беларуская зборная правядзе яшчэ адзін таварыскі матч з камандай Андоры.

**Каця МАЗАКОВА.**

ВІНШУЕМ

# СЭНС ЯГО ЖЫЦЦЯ Ў СЛУЖЭННІ БОГУ І БЛІЗКАМУ



Мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму, Патрыяршаму экзарху ўсяе Беларусі Філарэту (у свеце Кірылу Вахрамееву) 21 сакавіка споўнілася 65 гадоў.

Уладыка нарадзіўся і вырас у Маскве. Выпускнік Маскоўскай семінарыі і акадэміі прыняў манаскі пострыг з імем Філарэт. У 1963 годзе ўзведзены ў сан архімандрыта і ўзначаліў аспірантуру Маскоўскай духоўнай акадэміі. Праз год — епіскап Дзмітраўскі, рэктар Маскоўскай духоўнай акадэміі. Затым архіепіскап Берлінскі і Сярэднееўрапейскі, Патрыяршы экзарх Сярэдняй Еўропы. У 1981 годзе назначаны старшынёй Аддзела знешніх царкоўных зносін Маскоўскага Патрыярхату, пастаянным членам Свяшчэннага сінода Рускай праваслаўнай царквы. З 1983 года — старшыня грамадскай камісіі Савецкага камітэта абароны міру па сувязях з рэлігійнымі коламі. Выбіраўся народным дэпутатам Рэспублікі Беларусь. З 1990 года — старшыня сінода Беларускай праваслаўнай царквы. Віншуючы Уладыку Філарэта з 65-годдзем, хацелася б расказаць чытачам крыху пра юбіляра проста як пра чалавека. І мы спыталі на тое дазволу ў самога Мітрапаліта.

— Чаму б не? — адказаў ён. — Канешне, з аднаго боку, я ўсведамляю сябе членам царквы, прыняў манаскі пострыг і цалкам прысвяціў сябе служэнню Богу і людзям — у выніку маё асабістае жыццё як бы стушавалася ў маёй свядомасці. Але, з другога боку, я разумею, што застаюся асобаю, чалавекам і маю свае ўяўленні пра з'явы.

Ён нарадзіўся ў веруючай сям'і. У хрышчэнні атрымаў імя Кірыл. Так што яго духоўным заступнікам стаў Роўнаапостальны Кірыл, які разам са сваім братам Мяфодзіем быў асветнікам славянскага народа.

Хлопчык рос у свеце музыкі: яго бацькі былі таленавітымі музыкантамі. У іх доме заўсёды гучалі звонкія дзіцячыя галасы — прыходзілі захопленыя музыкаю сябры старэйшай сястры, таленавітыя вучні бацькі. Вялікі ўплыў на фарміраванне светапогляду будучага свяшчэнніка аказаў Сяргей Смірноў, дзядзька па матчынай лініі, мастак. Доўгія гадзіны яны праводзілі разам: дзядзька пісаў чарговую карціну, Кірыл на фартэпіяна найграваў п'есы. Ён і сам спрабаваў выказваць сваё светаадчуванне з дапамогаю фарбаў і пэндзля. А калі музыка і жывапіс зліліся ў адно, выбраў сваё прызванне. Духоўная спадчына братоў Кірылы і Мяфодзія — адзінае і непадзельнае ўсеславянскае багацце. Ён вырашыў несці гэтае багацце моваю Евангелля — моваю ісціны і дабра, любові і ўсёдаравання.

Пастырскае служэнне выключае замкнёнасць у сабе, свяшчэннік заўсёды мае зносіны з народам. І пропаведзь яго — гэта маленькі, самастойны твор, жывое, патрэбнае слова, водгук на кліч душы чалавека. Не выпадкова, што часта самае патаемнае пра нас ведае толькі свяшчэннік. Слова свяшчэнніка адрозніваецца ад свецкай мовы. Аргументы і факты, якія ён прыводзіць, суседнічаюць са спасылкамі на Свяшчэннае Пісанне — і гэта выклікае асобую ўвагу, больш таго — давер. Калі ў храме служыць літургію Мітрапаліт Філарэт, народ разумее з першага слова, таму што ён заўсёды моліцца сэрцам.

Дзякуй Богу, сёння ўсё больш людзей прыходзяць у царкву. Некаторыя, мабыць, ідуць у храм, спакутаваныя нявызначанасцю перспектыў цяперашняга жыцця, але большасць усё ж у вечным пошуку дакладнага ўяўлення пра сэнс жыцця, яго канчатковую мэту, пра прызначэнне чалавека.

— А ў чым, па-вашаму, сэнс жыцця? — спытала я аднойчы ў Мітрапаліта, калі брала ў яго інтэрв'ю.

— У служэнні Богу і блізкім. Чалавек прыходзіць у свет з адной мэтаю — пастаянна працаваць над сабою, і жыццё яго трэба разглядаць як працэс удасканальвання — пераадоленне цяжкасцей і спакус, глыбокае асабістае духоўнае парыванне.

**Таццяна ХРАПІНА.**

АЛЬТЭРНАТЫВА

# СТРАТЭГІЯ ДЛЯ БЕЛАРУСІ

***Зусім нядаўна група беларускіх незалежных экспертаў завяршыла грунтоўную інтэлектуальную працу, лаканічна названую "Стратэгія для Беларусі". Па задуме распрацоўшчыкаў, яна ўяўляе навукова абгрунтаваны варыянт нацыянальнай канцэпцыі развіцця, рэалізацыя якой дасць магчымасць пераадолець глыбокі сістэмны крызіс. Задача, безумоўна, высокая, таму і цікавасць газеты да гэтага факта асобая. І тут мы адразу знайшлі паразуменне з нашым субяседнікам, адным з распрацоўшчыкаў канцэпцыі, прэзідэнтам аналітычнага цэнтра "Стратэгія" Леанідам ЗАІКАМ.***

**— Леанід Фёдаравіч, перад тым як павесці гаворку пра саму праграму, хацелася б ведаць, на каго канкрэтна разлічана яна?**

— Асаблівай рысай беларускага грамадства з'яўляецца перавага каштоўнасцей сацыялістычнай справядлівасці над эканамічнай свабодай. Такі выбар, і гэта паказала навейшая беларуская гісторыя, вядзе да кансервацыі традыцыйных сацыялістычных міфаў і стэрэатыпаў. Беларускае грамадства пастаянна адкладвае свой прынцыповы сацыяльна-эканамічны выбар, спрабуючы ў новых умовах максімальна захаваць перавагі ранейшай мадэлі, не рэфармаваць, а ўдасканальваць створанае папярэднімі пакаленнямі. Практычна папулізм цяперашніх эканамічных і палітычных беларускіх эліт "працягнуў" краіну па колу і вярнуў яе ў стан 1992 года.

**— Выходзіць, зноў усё спачатку?**

— Мы вярнуліся да тых жа эканамічных і сацыяльных праблем, што былі на пачатку 90-х гадоў, толькі ў значна менш спрыяльных умовах. У XXI стагоддзе беларускае грамадства прыйшло расколатым. Адна частка, сярод якой дамінуюць маладыя людзі, хоча жыць у незалежнай дзяржаве з рыначнай эканомікай. Другая частка, сярод якой пераважаюць людзі сталага ўзросту з невысокім узроўнем адукацыі, хочуць жыць у краіне, дзе за ўсё адказвала б і ўсё забяспечвала б патэрналісцкая дзяржава. Адны бачаць з Захаду пагрозу каштоўнасцям славяна-праваслаўнай цывілізацыі, другія лічаць, што знешняя пагроза зыходзіць ад Расіі, і спрабуюць процістаяць інтэграцыі з ёю. Найважнейшым элементам сістэмных пераўтварэнняў у такой сітуацыі, на думку маіх калег, павінна стаць не пазіцыя сілы з боку ўлады, а адкрыты дэмакратычны шлях грамадска-палітычнага дыялога і дасягненне згоды на падставе прыняцця доўгатэрміновых рашэнняў. Менавіта грамадзянскі мір і палітычны кампраміс, улік думак і пазіцый розных плыняў, уменне дамаўляцца, а не падаўленне апазіцыі з'яўляюцца для сённяшняй Беларусі не толькі гарантыяй стабільнасці і прадказальнасці развіцця, але і фактам эканамічнага росту. Дарэчы, 60—65 працэнтаў грамадзян Рэспублікі Беларусь, па апытаннях сацыёлагаў НІСЭПД, не з'яўляюцца цвёрдымі прыхільнікамі ці праціўнікамі супрацьлеглых палітычных груп. Таму даны праект, калі мець на ўвазе ваша пытанне наконт адраснасці канцэпцыі, разлічаны не толькі на ўладу і дэмакратычную апазіцыю, але і на маўклівую большасць беларусаў. Пры гэтым я хачу падкрэсліць, што абавязковай умовай згоды грамадства на сур'ёзныя рэформы з'яўляецца ўрад, які б даў пэўныя гарантыі поспеху пераўтварэнняў і сацыяльнай абароны грамадзян. Прапанаваны намі варыянт правядзення нацыянальнай палітыкі накіраваны на стварэнне камфортнага і годнага жыцця для кожнага чалавека, а не нацыі ці моцнай дзяржавы. І калі жыццё ў нашай краіне будзе менавіта такім, то мы зможам ганарыцца нашай радзімай. Ганарыцца тым, што самі змаглі яго такім зрабіць у нашай Беларусі.

**— Дакладна, Леанід Фёдаравіч, колькі на гэта спатрэбіцца часу, калі мець на ўвазе вашу стратэгію і тактыку рэфармавання? І на які стратэгічны выбар яна зарыентавана?**

— Трансфармацыя ў рыначную эканоміку — гэта як бы стратэгія новага курсу. Што да тактыкі, то, мне здаецца, яна вобразна адпавядае назве аднаго з раздзелаў — "Крок за крокам". Маецца на ўвазе, і ў гэтым сэнс рэформаў, праводзіць іх не ўраз, па-гайдараўску, а з улікам вядомых метадаў сусветнай практыкі і беларускай спецыфікі. Мэта адна: максімальна пазбегнуць непажаданых рызыкі і пагроз — масавага беспрацоўя, рэзкага зніжэння ёмістасці ўнутранага рынку, абвастрэння сацыяльных праблем. Працэс трансфармацыі не павінен быць аднамерным і бессістэмным.

**— Як гэта спалучаецца з вашай канцэпцыяй? Скажам, праграма прымаецца. Ёсць таксама каманда, якая яе будзе выконваць. Якія канкрэтныя дзеянні, ці, як вы вобразна заўважылі, "крокі" трэба зрабіць на яе шляху?**

— Наш варыянт стратэгіі і тактыкі рэформаў прадугледжвае тры этапы. Першы — лібералізацыя эканомікі і падрыхтоўка да сістэмнай стабілізацыі. Гэта прыкладна год, максімум паўтара. За гэты час мы фарміруем рыначны механізм гаспадарання, плаўна тармозім інфляцыю. Каб "падаслаць саломку" або змякчыць вынікі ўзмацнення жорсткасці крэдытна-грашовай сістэмы, паралельна праводзім палітыку, накіраваную на зніжэнне ўзроўню субсідарнасці, стымуляванне новых эканамічных форм, падтрымку занятасці і самазанятасці насельніцтва. Працэс выраўноўвання асноўных манетарных і фіскальных параметраў дазволіць больш эфектыўна спрацаваць на павелічэнне даходаў, што ў выніку *гарантуе ўзровень заработнай платы, эквівалентны 100—150 доларам у месяц.* Гэта — увогуле. На справе этап лібералізацыі ставіць перад эканомікай вырашэнне 10 асноўных задач. У прыватнасці, забеспячэнне роўнасці суб'ектам гаспадарання ў дачыненні да бюджэту, а значыць, адмену права з боку выканаўчай улады на прадастаўленне таму ці іншаму прадпрыемству падатковых ільгот ці на імпартныя пошліны. Такая прэрагатыва застаецца толькі ў кампетэнцыі парламента і то ў час прыняцця бюджэту краіны. Затое зніжаюцца імпартныя пошліны спачатку на прадукты, потым на астатнія тавары на 4—8 працэнтаў. На 2 гады вызваляецца ад пошлін і падаткаў увоз тавараў фізічнымі асобамі на суму да 10 000 долараў (акрамя спіртных напояў і цыгарэт). Адмяняюцца розныя нетарыфныя метады рэгулявання знешняга гандлю — квоты, ліцэнзіі, асобы парадак сертыфікацыі тавараў і г. д. Лібералізацыя знешняга гандлю таксама ставіць знак роўнасці паміж беларускімі і замежнымі суб'ектамі гандлю. Наогул, рэвалюцыйныя зрухі чакаюць ужо на першых парах малы айчынны бізнес. Ён атрымлівае статус еўрапейскага балансу, а той, хто пажадае займацца ім, на 2—3 гады будзе вызвалены ад уплаты падаткаў. Падлічана, што ўвоз танных прадуктаў, затраты на вытворчасць якіх у Беларусі ў 2—3 разы вышэйшыя за цэны міравога рынку, толькі ў частцы прадукцыі жывёлагадоўлі дасць эканомію па затратах не менш як 1 мільярд долараў у год. Гэтыя грошы пойдуць на рэфармаванне АПК, а таксама кампенсацыю выведзеных з сельгасабароту 25—30 працэнтаў забруджанай чарнобыльскай зямлі, бо яе выкарыстанне экалагічна небяспечнае, эканамічна нявыгаднае і проста амаральнае. На працягу першага года рэформ затармозіцца інфляцыя. Нацыянальны банк верне сабе незалежнасць ад выканаўчай улады. На банкаўскі рынак краіны прыйдуць філіялы надзейных замежных банкаў. Апошняе неабходнае, каб падняць давер да фінансавай сістэмы краіны. Фарміраванне курсаў валют будзе насіць свабодны характар. Да інтэрвенцыі грошай НБ будзе прыбягаць толькі з мэтай згладжвання рэзкіх кароткачасовых ваганняў. На час лібералізацыі абмяжуецца дзяржаўнае фінансаванне будаўніцтва жылля. Захаваецца толькі будаўніцтва экалагічных і "чарнобыльскіх" аб'ектаў. Будуць створаны праграмы падтрымкі і захавання рабочых месцаў для дзяржаўных прадпрыемстваў. На перыяд 15—20 месяцаў, на час санацыі прадпрыемстваў, для работнікаў павінна выплачвацца з бюджэту толькі на зарплату адпаведная субсідыя. Калі прадпрыемства не падымецца і свой шанц не скарыстае, яго прададуць на конкурснай аснове. Адначасова з рэформай сацыяльнай уступіць у дзеянне падатковая рэформа, а таксама лібералізацыя цэн. Будзе ўведзены дзяржаўны, а таксама грамадскі кантроль над цэнавай палітыкай натуральных манапалістаў. Пастаяннае павелічэнне долі аплачваемых насельніцтвам жыллёва-камунальных паслуг і транспартных тарыфаў будзе строга адпавядаць аднач асоваму скарачэнню на гэтую велічыню расходаў і даходаў бюджэту, а таксама зарплаты бюджэтнікаў. Гэтыя і іншыя захады прадвызначаюць першы крок стратэгіі і тактыкі рэфармавання эканомікі.

**— Гэта кароткатэрміновая перспектыва. А надалей на што можна разлічваць? Наступныя крокі?**

— Далей — этап стабілізацыі беларускай эканомікі. Галоўная задача яго — спыніць падзенне валавога ўнутранага прадукту і перастаць праядаць нацыянальныя багацці краіны. Адзінай крыніцай расходаў дзяржавы павінен стаць бюджэт (адзін) і пазыковыя сродкі, а ні ў якім разе не дзяржаўная падтрымка суб'ектаў гаспадарання за кошт крэдытнай эмісіі Нацыянальнага банка ці рэзервных сродкаў камерцыйных банкаў. Прадпрыемства аўтаматычна прызнаецца фінансавым даўжніком, калі не разлічваецца па рахунках больш 60 дзён. Паколькі судовая працэдура банкруцтва ва ўмовах масавай неплацежаздольнасці практычна неэфектыўная, а на санацыю ні ў кога няма грошай, прапануецца пашырыць прымяненне пазасудовых працэдур на аснове пагаднення бакоў. З гэтай мэтай па прыкладу Венгрыі ўвойдзе ў дзеянне Дзяржаўны маёмасны камітэт, які будзе разлічвацца па даўгах дзяржпрадпрыемстваў. У праграме другога этапа — заканчэнне малой прыватызацыі, пераход ад сістэмы сацыяльнай абароны да сацыяльнага страхавання, правядзенне амністыі і легалізацыі даходаў, што, праўда, зусім не выключае судовай адказнасці ў будучыні, калі выявіцца, што гэтыя капіталы нажытыя недазволеным спосабам. Лічыце, яшчэ паўтара года рэформ, *а заробак — 200—250 долараў у месяц.*

**— Зусім нядрэнна за нейкія два-тры гады.**

— І нарэшце трэці этап — этап інстытуцыянальных пераўтварэнняў, мадэрнізацыі вытворчасці, уключэнне ў працэс глабалізацыі. Прыкладна другі і наступныя гады. На гэтым адрэзку часу ставіцца задача завяршыць асноўную праграму прыватызацыі, стварыць слой эфектыўных уласнікаў, а таксама прыцягнуць нацыянальныя і замежныя інвестыцыі. Падчас трэцяга этапа рэформ фарміруецца эфектыўная прамысловая палітыка, накіраваная на забеспячэнне доўгатэрміновага эканамічнага росту, праводзіцца зямельная рэформа. Асноўная ідэя яе — даць права сялянам добраахвотна выходзіць з калгасаў і саўгасаў разам з зямельнымі і маёмаснымі паямі. Пры гэтым зямля пераходзіць у іх асабістую ўласнасць бясплатна. Уласнік зямлі плаціць зямельны падатак (за нерухомасць) у памеры 1—3 працэнтаў па рыначнаму кошту ў залежнасці ад месцазнаходжання і якасных паказчыкаў зямлі. Патрабаванне выкарыстоўваць зямлю па прамому назначэнню адмяняецца. Урад за кошт бюджэту развіцця арганізуе інфармацыйную і навуковую падтрымку аграбізнесу, спрыяе пашырэнню фермерскіх кааператываў. Акрамя гэтага, трэці этап рэформ прадугледжвае рэструктурызацыю і прыватызацыю сярэдніх і буйных прадпрыемстваў, уключэнне іх у транснацыянальныя карпарацыі, развіццё шырокай сістэмы адукацыі, пенсійную рэформу і іншыя сацыяльныя трансфармацыі. Праз 3—4 гады пасля сістэмных рэформ павінен запрацаваць традыцыйны рыначны механізм. Агульная працягласць этапу мадэрнізацыі зойме 15—20 гадоў. Галоўным вынікам яго стане ўдзел беларускіх вытворцаў у міжнародным раздзеле працы і *павелічэнне сярэдняй зарплаты да 800—1 000 долараў.*

**— Іншы раз, Леанід Фёдаравіч, можна пачуць менавіта пра беларускі шлях развіцця. Наколькі ён упісваецца ў ваш варыянт канцэпцыі?**

— Прыдумваць і шукаць нейкі асобы шлях для Беларусі — значыць, аддаваць краіну і народ на неапраўданыя эканамічныя і палітычныя эксперыменты. Шлях Беларусі — гэта шлях, які ўжо прайшлі і па якому працягваюць ісці дзесяткі краін, што па-ранейшаму дэманструюць яго перавагу высокім узроўнем развіцця і дабрабытам людзей. Галоўныя праблемы незалежнай Беларусі заключаюцца ў непадрыхтаванасці нацыянальнай наменклатуры на ўсіх узроўнях да суверэннага развіцця краіны, у адсутнасці адэкватнай рэакцыі на новыя патрабаванні часу. Усе беды тлумачыліся "разрывам гаспадарчых сувязей". Замест мадэрнізацыі ў Беларусі пачаўся працэс мутацыі традыцыйных сацыяльных, палітычных і эканамічных структур.

**— Якія, на ваш погляд, перспектывы чакаюць Беларусь?**

— Свет становіцца эканамічна больш свабодным і празрыстым. Доля дзяржавы ў фарміраванні ВУП пастаянна зніжаецца. Эканамічная ўлада пераходзіць на ўзровень прыватнага інвестара, прадпрымальніка, спажыўца. Поўнае паражэнне цэнтралізаванай планавай эканомікі, фінансавы крызіс у Азіі, Лацінскай Амерыцы і Расіі, наша з вамі жыццё і многае, многае іншае даказваюць перавагі свабоднага рынку. Працаваць у рамках адной ці дзвюх краін становіцца неэфектыўна. Беларусі з яе адкрытай эканомікай даўно пара гэта зразумець.



## «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ» – 45

Пачатак на 1-й стар.

Вось іх і трэба прыцягваць да барацьбы за родную мову, вываду яе з задворкаў, за сапраўдную незалежнасць Бацькаўшчыны-Беларусі.

Наконт пажаданняў. Хацелася б, каб, па-першае, газета была больш інтэлектуальнай і беларускай па духу. (А гэта залежыць ад аўтараў публікацый. Магчымасці з іх пошукам у Мінску ёсць — гэта Навукова-асветны цэнтр Ф. Скарыны і іншыя. Было б жаданне ў кіраўніцтва газеты). Па-другое, каб была рубрыка пра дзейнасць асветніцкую, культурна-грамадскую, краязнаўчую розных цэнтраў і гісторыка-краязнаўчых гарадскіх, раённых, а таксама вясковых музеяў, пра чытанні, якія праходзяць на іх базе, правядзенне свят народнага мастацтва, спеўных фестываляў. Хай народ заспявае па-беларуску. Успомнім спеўныя рэвалюцыі ў Прыбалтыцы. Дарэчы, у 1999 годзе ў Глыбокім гісторыка-краязнаўчы музей і аддзел культуры райвыканкама пры актыўным удзеле А. Майсяёнка правялі міжнародныя чытанні "Глыбоччына: погляд у мінуўшчыну". У самім Глыбокім ёсць многа выбітных краязнаўцаў, адным з найбольш славутых з`яўляецца Іосіф Бунто, чалавек энцыклапедычных ведаў у галіне гісторыі і краязнаўства, асабліва Надзвіння. Гэта і Скрабатун — укладальнік кнігі "Глыбокае ў старых паштоўках", рэдактар газеты "Веснік Глыбоччыны". А глыбоцкія кавалі чаго вартыя! З гэтымі і іншымі людзьмі карысна было б сустрэцца.

Жыве ў Нямеччыне ў Дзюсельдорфе былы глыбачанін Артур Лев, які штогод улетку прыязджае ў Глыбокае, дзе за яго сродкі і яго намаганнямі былі ўпарадкаваны старыя яўрэйскія могілкі і месцы расстрэлу фашыстамі жыхароў гета.

У час вандроўкі па ўсходу Беларусі вялікае ўражанне на мяне зрабіла кіраўнік культурна-асветніцкага цэнтра імя У. Караткевіча ў Оршы Ларыса Кудраўцава — настаўніца, пантаны патрыёт і выхавальнік моладзі. Дарэчы, яна з дзецьмі ўлетку 1999 года правяла вандроўку ў Мір, Нясвіж, Навагрудак, аб чым мне паведаміла ў лісце.

Па-трэцяе, каб была рубрыка "Беларуская бібліяграфія" (кнігі, якія будуць выдадзены ў Мінску і ўвогуле на Беларусі з мэтаю іх заказу і набыцця).

Добра было б узнавіць трывалыя кантакты з выбітнымі дзеячамі беларускай культуры, навукоўцамі, дзеячамі мастацтва, *асабліва музыказнаўцамі. (В. Скорабагатаў* і яго паплечнікі сабралі бясцэнны скарб у галіне музычнай культуры Беларусі).

Цікавымі былі б нейкія сямейныя памяткі, паданні, фотаздымкі. Трэба шукаць, распытваць (пакуль яшчэ жывыя сведкі і нашчадкі), "зьбіраць зярно к зярняці", як казаў Купала, пра нашае нацыянальнае адраджэнне, пра культурна-творчы ўздым, беларусізацыю 20-х гадоў, каб болей ведаць і аптымістычна глядзець у сваё заўтра.

Жыве Беларусь!

**Антон САБАЛЕЎСКІ.**

г. Масква.

***P. S.*** *Цікавымі таксама былі б і ўспаміны дачкі былога старшыні ўрада БССР да 1936 года Галадзеда — Валянціны Мікалаеўны, былой вучаніцы 20-й мінскай школы, дзе дырэктарам быў мой бацька. Дасылаю ксеракопію "Пахвальнага ліста" з подпісамі Аляксандра Сабалеўскага, Аляксандры Ермаловіч — настаўніцы беларускай мовы, Зінаіды Іваноўскай — выкладчыцы нямецкай мовы. Гэты ліст Валянціна Мікалаеўна атрымала напярэдадні арышту бацькі. Пра трагічны лёс бацькоў і яе мы з ёю прагаманілі больш як тры гадзіны. А галоўнае, што дзеці кіраўнікоў дзяржавы і ўрада вучыліся ў беларускай школе, і гэты ліст пра тое сведчыць.*

*Канешне, пасланне маё можа падацца трохі сумбурным, я па адукацыі не філолаг. Калі знойдзеце ў ім штосьці карыснае, буду рады. Ведаю, што вам ой як нялёгка, пры гэтым заўсёды ўспамінаю словы Янкі Брыля пра лета гарачае...*

## МЯЖА

У красавіку прыступіць да нясення службы па ахове дзяржаўнай мяжы новае падраздзяленне Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў — група рачных катэраў у пасёлку Лоеў Гомельскай вобласці.

Як паведаміў старшыня Дзяржкамітэта генерал-лейтэнант Аляксандр Паўлоўскі, група будзе забяспечваць ахову ўчастка беларуска-ўкраінскай мяжы працягласцю 165 кіламетраў. Зараз фарміруецца флот, які ўключыць сярэднія, лёгкія катэры і судны на паветранай падушцы.

У далейшым, паведаміў кіраўнік пагранічнага ведамства, рачныя падраздзяленні будуць ствараццца на Дзвіне, Нёмане і Бугу, па якіх таксама праходзіць дзяржаўная мяжа.

Пакуль не вырашана пытанне, якую форму павінны насіць рачныя пагранічнікі: класічную пагранічную або новую, з элементамі марской.

## БІЗНЕС-КЛУБ




# ЗАПРАШАЕ «СЫТЫ ТАТА»

(Пачатак на 1-й стар.).

— Усё пачалося ў 1991 годзе, калі мы стварылі кааператыў "Марыя", — успамінае яна. — Спачатку займаліся гандлем, але неўзабаве я зразумела, што гэта не маё, і ... вырашыла пераабсталяваць наш гандлёвы павільён пад "Шашлычную". Калі ўбачылі, што прадукцыя карыстаецца попытам, пачалі пашыраць асартымент.

Канешне, цяжкасцей было шмат, бо ў той час прыватны бізнес толькі зараджаўся. Помню, на прыём у выканкам хадзіла аж 18 разоў. У выніку нам пайшлі насустрач — дазволілі адкрыць кафэ. Сродкаў на яго абсталяванне амаль не было: нават абрусы і посуд прыносілі з дому. Вельмі дапамагла нам у той час кампанія "Лукойл". Так з'явіўся "Сыты тата".

**— Адкуль такая назва?**

— Я заўсёды любіла гатаваць не па рэцэптах, а прыдумвала нешта сваё. І ў "Сытым тату" мы імкнёмся, каб нашы стравы былі не толькі разнастайнымі, але, як кажуць, "дамашнімі", як у мамы. Таму і такую назву выбралі, бо галоўны клопат мамы — сям'я. А калі тата будзе сыты, то і ў сям'і будзе згода.

**— Звычайна рынак ніяк не асацыіруецца з рэспектабельнымі кафэ і рэстаранамі...**

— Будынак Камароўскага рынку — помнік архітэктуры, і перад горадам стаіць задача захоўваць яго ў належным выглядзе. Думаю, плошча, на якой знаходзіцца наша кафэ, павінна быць прыгожай: на ёй абавязкова будзе фантан, летнія столікі і вельмі многа кветак. А ўсе мае сумненні адносна месца знаходжання кафэ адпалі, калі на астралагічнай карце горада я ўбачыла, што Камароўка знаходзіцца пад уплывам Казярога, — гэта мой знак задыяка.

**— У вас многанацыянальны калектыў. Напэўна, вы не абмяжоўваецеся толькі беларускай кухняй?**

— Стараемся, каб наша меню было разнастайным. У ім і ўзбекскі плоў, і лагман, і, канешне, украінскі боршч — як без яго? Ёсць у нас і фірменныя стравы — нават тарты выпякаем. Цікава, што мужчыны, якія не любяць салодкае, ад нашых тартоў не адмаўляюцца ніколі.

**— Чым вы растлумачыце поспех, якім карыстаецца ваша кафэ?**



Повар Юрый ПЯТРОСАЎ.

— Асноўнае наша правіла — працаваць так, каб чалавек, які аднойчы сюды прыйшоў, абавязкова захацеў вярнуцца. Таму ў нас многа пастаянных кліентаў, і іх колькасць усё павялічваецца. Паэт і кампазітар Мікалай Траццякоў нават напісаў песню, прысвечаную "Сытаму тату". Дарэчы, наша кафэ аказвае спонсарскую падтрымку многім артыстам, спартсменам. У бліжэйшы час плануем узяць шэфства над дзіцячым домам.

**— Гавораць, што ў "Сытага таты" ёсць нават свой ансамбль?**

— З гэтымі хлопцамі мы пазнаёміліся некалькі гадоў назад. Вандроўныя музыканты, яны часта ігралі каля нашага кафэ. Хутка ў нас завязалася сяброўства, але для мяне было вельмі непрыемна, што пасля выступлення яны збіраюць у шапку грошы. Таму прапанавала: "Давайце разам ладзіць нейкія святы. Я вам дапамагу". Менавіта так і атрымалася. Сёння іх запрашаюць весці вяселлі, розныя прэзентацыі. А хутка ансамбль "Янка" пачне выступаць у нашым новым кафэ. Плануем, што іх праграма будзе складацца з двух аддзяленняў: беларускія народныя і эстрадныя песні.

**— Раскажыце, як ваша маленькае прыватнае прадпрыемства пачало абслугоўваць самыя прадстаўнічыя банкеты.**

— Калі мяне ўпершыню запрасілі ў англійскае пасольства, я спачатку нават падумала, што гэта розыгрыш. Мне тады прапанавалі абслужыць фуршэт, які ладзіўся ў гонар дня нараджэння англійскай каралевы. Калі я запыталася, якая павінна быць кухня, мне адказалі: "Ваша!" Аказалася, што прадстаўнікі пасольства неяк наведалі наша кафэ і ўсё ім спадабалася.

Праўда, мае ўяўленні пра фуршэт былі вельмі цьмянымі. Я адразу пачала вывучаць розныя кнігі па этыкету, правілах правядзення банкетаў. Два тыдні — ні сну, ні адпачынку. Прадумала ўсё да дробязей. Але быў-такі адзін няёмкі момант. На памяць я падарыла англійскаму і нямецкаму паслам — арганізатарам фуршэта — карціны з выявай помніка Перамогі ў Мінску. А пасол Германіі, здаецца, крыху пакрыўдзіўся: "Вы што, ніяк не можаце забыць вайну?" Я адказала, што некалі паэт Еўтушэнка папярэджваў: калі мы забудзем пра гэту вайну, будзе наступная. Да таго ж для мяне гэта вельмі памятнае месца: у маёй мамы загінулі 12 братоў. А ўвогуле той вечар атрымаўся.

Прыкладна праз год Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Вялікабрытаніі ў Беларусі стала Джэсіка Пірс. Яна часта наведвала наша кафэ, асабліва любіла беларускую кухню — дранікі, бліны з мачанкай, галубцы. І свой дзень нараджэння захацела адзначыць менавіта ў "Сытым тату". Я разумела, якую адказнасць бяру на сябе. Пяцьдзесят чалавек гасцей не маглі размясціцца ў нашай невялікай зале, таму ўсе сталы мы вынеслі на вуліцу. Гэта зараз плошча Камароўскага рынку больш-менш дагледжаная, а тады... Асфальт перад кафэ мы нават з парашком вымылі. Спецыяльна для гэтага свята я закупіла 50 букетаў штучных кветак. Адным словам, плошчу перад нашым кафэ ператварылі ў квітнеючы аазіс. І калі запалілі свечкі і вынеслі торт — было проста здорава.

**— Ведаю, што ў іншых гарадах краіны таксама ёсць кафэ "Сыты тата".**

— Мала таго, у Магілёве нават газета з такой назвай выходзіць, але мы не маем да іх ніякага дачынення — нехта ўкраў нашу назву. А мне гэта нават прыемна. Чаму мы павінны хадзіць у "МакДональдс"? Няхай па ўсёй краіне будуць "Сытыя таты"!

**Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**



Ансамбль "Янка".



Афіцыянтка Наталля САСНОЎСКАЯ.

## ТОЛЬКІ ФАКТ

**Як падлічылі расійскія даследчыкі, той, хто пражыў на свеце 75 гадоў, з'ядае за гэты час каля 22 тон ежы і выпівае каля 33 тысяч літраў вадкасці.**



СПАДЧЫНА

# ДАРАГІ ТОЙ КУТОК



Францішак Багушэвіч, як вядома, нарадзіўся ў Свіранах (здымак справа ўверсе), поблізу Вільні. Там яго радзіма. Пра свіранскі кут — радзіму Францішка Багушэвіча — у 1995 годзе мне ўдалося выдаць кніжку. Назваў я яе "Свіранскія крэскі". У ёй расказаў пра тое, як у Свіранах правілі нарадзіны, хрэсьбіны, якія спявалі тут немаўляткам калыханкі. А вось што рабілі свіранцы з пупавінаю немаўлятаў, якія былі з ёю звычаі, — гэта неяк засталося па-за маёй ўвагаю. А між тым пупавіна — не такая ўжо драбнічка ў лёсе чалавека. Па-рознаму з ёю колісь чарадзеілі на Беларусі. У адных мясцінах яе высушвалі, хавалі ў куфрах, у іншых — запіхвалі ў дзірку, якую загадзя рабілі ў сцяне. Калі дзіцяці набягала тры гады, а часцей сем, на высахлай пупавіне рабілі некалькі тугіх вузельчыкаў і давалі яму развязаць. Гэта быў магічны рытуал. Развязванне вузельчыкаў сімвалізавала развязванне розуму дзіцяці. Гэтага ж звычаю трымаліся і ў Свіранах. Калі дзіця развяжа вузельчыкі на пупавіне, то праз усё жыццё яму будзе шчасціць, усе цяжкасці яму будуць падуладныя. Пра гэта мне расказала на радзіме Францішка Багушэвіча ягоная зямлячка Ванда Зянкевіч. Ёй калісь самой давялося развязваць сваю пупавіну. "Памятаю, — згадвае яна, — давялося добра папацець!.. Развязаць гэтыя вузельчыкі трэба было для таго, каб быць удалай!.."



*Памятная дошка на паэтавай хаце ў Кушлянах.*



KALENDARZ GOSPODARSKI NA ROK PANSKI PRZESTĘPNY 1840

МѢСЯЦОСЛОВЪ ХОЗЯЙСТВЕННЫЙ НА 1840 ГОДЪ

W WILNIE I GRODNIE

*Вокладка "Календара гаспадарчага на год панскі 1840". З гэтага календара відаць: 9-га сакавіка была субота. 1840 год быў высакосны. На дзевятага сакавіка выпадаў дзень сонечнага раўнадзенства: дзень быў роўны ночы.*

Францішак Багушэвіч паходзіў з шляхетнага роду. І яму, мусіць, перад тым як выправіцца ў навуку, таксама давялося развязаць вузельчыкі свайго лёсу.

Нездарма ж кажуць: "Дарагі той куток, дзе рэзаны пупок. Там радзіма, дзе маці нарадзіла". Францішак Багушэвіч, як сапраўдны хрысціянін, прыродна адчуваў гэтыя ісціны і моцна трымаўся іх. Пра гэта і ягоныя вершы "Мая хата", "Свая зямля".

Бедна ж мая хатка
                расселася з краю,
Між пяскоў, каменняў,
                ля самага гаю,
Ля самага бору,
                на беражку лесу,
Ніхто тут не
                трафе, хоць бы
                з інтарэсу.
..............................
Кепска ж мая хатка,
падваліна згніла,
І дымна, і зімна, а яна міла;
Не буду мяняцца хоць
                бы і на за́мкі, —
Калок свой мілейшы, як
                чужыя клямкі.
На страсе мох вырас,
                на маху бярозка, —
Мільшая мне хатка,
                як чужая вёска.

**"Мая хата".**

О, памагае зямля шмат,
У кожнай хваробе свая!
Я ж не стары запасны салдат,
А гэта ведаю добра і я!
....................................
Але заслалі мяне за кару
За тысячу міль! Вунь аж куды!
Не быць і з цялятамі там
                Макару,
Там не заходзяць нават жыды!
Там зімой дык слонца няма,
А летам дык жыць не даюць
                камары;
Хоць бы клапаць зямлі, —
                толькі пушча сама,
Ды балоты, ды ройсты,
                мшары...
А пошасць як пойдзе на люд,
Дык мруць, як атруты ўзялі!
Умёр бы то, мусіць, я тут,
Каб не жменька той роднай
                зямлі.
Як пачне разбіраць і мяне,
Дык шчыпту яе у вадзе
Глытнеш, дык пот аж ліне,
І хваробу рукой развядзе!
А другім што даваў, дык і не!
Не памог і не шкодзіў нікому,
Бо зямля не па іх, а па мне.

**"Свая зямля".**

Вось як моц роднай зямлі адчуваў Францішак Багушэвіч.

**Падрыхтаваў Уладзімір СОДАЛЬ.**

**Фота А. КАЛЯДЫ.**



*Касцельны запіс аб народзінах Францішка Багушэвіча.*



*Сакавік у Кушлянах. Даўняя ўласнасць Багушэвічаў.*

# БЕЛАРУСІ

ленасць, зрабіць у далейшым тэмай сваёй дыпломнай працы, а ў перспектыве і прафесійна займацца ўкраінскай і беларускай тэматыкай, як гэта з бясспрэчным поспехам на працягу дзесяцігоддзяў робіць яго суродзіч старэйшага пакалення Вацлаў Жыдліцкі. Усцешыла, а ў многіх выпадках і ўразіла трапнасць назіранняў маладога чалавека, яго роздум над сучаснай сітуацыяй у Беларусі і перспектывай далучэння да таго шляху, па якім ідзе цывілізаваная Еўропа. Спадзяюся, што знаёмства набудзе працяг, што Ян Барта яшчэ вернецца ў Беларусь. Магчыма, і гэтай вясною, калі дачуецца, што з 17 па 19 траўня ў Мінску склікаецца чарговы Кангрэс беларусістаў. Яго адметнасць у тым, што праводзіцца супольным намаганнем Нацыянальнага навукова-асветніцкага цэнтра імя Францішка Скарыны і Беларускага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка. Зацікаўленыя чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца ў гэтым нумары газеты з яго тэматыкай і праблематыкай. Але будзе і яшчэ адзін, перакананы, істотны момант, звязаны з ушанаваннем памяці і асэнсаваннем следу ў беларускім мовазнаўстве, што пакінуў выдатны навуковец і пісьменнік, проста слаўны чалавек, які пражыў багатае на падзеі і выпрабаванні, але па сваёй духоўнай і маральнай сутнасці светлае і прыгожае жыццё Фёдар Янкоўскі. Менавіта з такой ініцыятывай выйшаў у аргкамітэт кангрэса аўтар гэтых радкоў. Мае прапановы знайшлі шчырую і зацікаўленую падтрымку — будзе наладжаны "круглы стол" памяці Янкоўскага, урачыстая вечарына, на якой выступяць такія яго шчырыя і адданыя на заўжды сябры, як народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль ды землякі-аднагодкі, а цяпер таксама вядомыя і заслужаныя ў нашай літаратуры людзі — Сяргей Грахоўскі і Аркадзь Марціновіч, паплечнікі па змаганню з фашызмам, вучні і аднадумцы, якіх узгадаваў гэты нястомны руплівец і якія сёння працягваюць справу ягонага жыцця. Да гэтых галасоў з Беларусі, спадзяюся, далучацца і яго замежныя сябры і прыяцелі. А іх таксама нямала. Дарэчы будзе сказаць, што яшчэ раней у Самаркандзе выйшла кніга пра беларуса Янкоўскага. Напэўна, калі прыедуць на кангрэс, то са сваім сяброўскім словам выступяць Гашыц Эднард са Славакіі, ужо згаданы тут Вацлаў Жыдліцкі з Чэхіі, Кароль Бушміт з Нямеччыны, айцец Надсон з Англіі. А да іх, зусім магчыма, далучацца і іншыя навукоўцы і грамадскія дзеячы, пра сувязі якіх з Фёдарам Міхайлавічам мне пакуль што невядома.

Было б вельмі добра, каб названыя і не названыя тут сябры і знаёмыя незабыўнага Фёдара Міхайлавіча адгукнуліся на наш покліч і даслалі свае ўспаміны-згадкі на адрас "Голасу Радзімы". Дый увогуле газета ласкава запрашае ўсіх улюбёнцаў Беларусі да актыўнага творчага супрацоўніцтва.

**Яўген ЛЕЦКА.**

### КАНГРЭС

Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка, Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Францішка Скарыны праводзяць 17—19 мая 2000 года ІІ Міжнародны кангрэс "Беларускае асветніцтва: вопыт тысячагоддзя".

**Мэты кангрэса:**

— абагульненне вопыту беларускага асветніцтва за тысячагадовы перыяд;

— абмеркаванне праблем і перспектыў развіцця культуры і навукі на сучасным этапе.

**Праблематыка кангрэса:**

• беларускае асветніцтва: вытокі, гісторыка-культурны кантэкст і нацыянальная спецыфіка;

• напрамкі і змест асветніцкай дзейнасці ў Беларусі;

• беларускія дзеячы ў гісторыі культуры народаў свету;

• асветніцкая дзейнасць і развіццё гуманітарных, прыродазнаўчых і дакладных навук;

• актуальныя праблемы сучаснага асветніцтва.

Рабочыя мовы канферэнцыі — беларуская, руская і англійская.

Заяўкі на ўдзел у кангрэсе, матэрыялы дакладаў дасылаць на адрас: 220050, г. Мінск, вул. Савецкая, 18, факультэт беларускай філалогіі і культуры (кангрэс).



*Вера РЫЧ, Марыя МІЦКЕВІЧ...*

ДЭБЮТ

Я нарадзіўся ў Ялце, што ў Крыме (цяперашняя Украіна). Пераехалі з маці і сястрой у 1993 годзе ў Беларусь у вёску Вішнёўка Мінскага раёна. Адтуль паходзіць мая маці. Яна хварэла на рак лёгкіх і, на жаль, памерла, калі мне было восем, а сястры чатырнаццаць гадоў. Мы засталіся жыць у родных сясцёр маці Ніны і Валянціны Хмыз.

Восенню пайшоў у трэці клас, дзе і абудзілася ўва мне любоў да беларускай мовы. Вялікі дзякуй маёй настаўніцы Валянціне Жолудзь. Яна стварыла гурток фальклору і роднай мовы. Мне было прыемна ўдзельнічаць у вячорках, што ладзіліся кожны месяц. Я ўсёй істотай адчуваю сябе беларусам, таму і вершы пішу па-беларуску. Першы "Я люблю Беларусь" напісаў у трынаццаць гадоў. Пісаць вершы, якія б кранalі душу, мне дапаможа беларуская мова.

**Аляксандр ХМЫЗ, дзевяцікласнік.**

### НЕ ПАКІДАЙ

Не ад'язджай, брат,
                з Беларусі,
Не пакідай свой родны край.
Дзе нарадзіўся, дзе вучыўся,
Дзе лёс сустрэў, —
                не пакідай!

Табе тут клопатаў хапае,
А там, ты думаеш, лягчэй?
Ты не ўжывешся з чужакамі,
І будзе ліцца сум з вачэй.

Не раз, не два ўздыхнеш
                самотны
Па беларускай старане,
І будзеш бачыць кут свой
                родны
У кожным сне, у кожным
                сне.

## ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**Газета ўжо знаёміла чытача з працамі Алены Яскевіч. У мінулым годзе мы змясцілі артыкул Бажэны Шэр "І ўзлёт душы — як з цёплай далані", прысвечаны маладой даследчыцы. У гэтым нумары ў сувязі з выхадам яе кнігі "Абранне Вечнасці: Універсалізм традыцыі. Гістарызм сучаснасці" (Мн., 1999) мы змяшчаем водгук Ярослава Чыквіна, знанага амерыканскага палітолага і славіста, доктара гуманітарных навук, ганаровага члена-карэспандэнта Славянскай акадэміі Расіі. Дарэчы, ён быў адным з рэцэнзентаў манаграфіі А. Яскевіч. Відавочна, некаторыя чытачы зблыталі яго з героямі гэтага навуковага даследавання слынным беластоцкім дзяржаўна-грамадскім дзеячам Яўгеніюшам Чыквіным і старшынёй злучнасці беластоцкіх пісьменнікаў "Белавежа" Янам Чыквіным, які быў некалі рэцэнзентам кнігі Алены Яскевіч "Старабеларускія граматыкі: да праблемы агульнафілалагічнай цэласнасці" (Мн., 1996).**

**Да нас у рэдакцыю завітаў Ян Чыквін, які пацвердзіў, што нават па этычных меркаваннях ён не змог бы стаць рэцэнзентам кнігі "Абранне Вечнасці" А. Яскевіч, дзе ён згадваецца як паэт. Не ў традыцыях слыннай беластоцкай школы быць рэцэнзентам працы з аналізам уласнай творчасці.**

# РУПЛІЎЦА Ў КРАІНЕ СКАРБАЎ...

*Упершыню з творчасцю Алены Яскевіч я пазнаёміўся праз яе вершаваную спадчыну пры варунках паломніцтва ў Пачаева. Мяне моцна ўразілі ўрыўкі з яе вершаванай драмы "Ілірыйская Беатрычэ". Я літаральна закахаўся ў твор і яе аўтара. Адразу ля святыні я пераклаў першую дзею твора "Сляпы кароль". Бо ці не ўсе мы ў свеце гэтым асляплыя ад спапяляльнай варожасці, трагічнага падзелу ўнутры дзяржавы, хрысціянства, нацыі, сям'і. А творчасць Алены Яскевіч проціпастаўляе разбуральным сілам унутры і па-за межамі чалавека імкненне зразумець яго праблемы, вытлумачыць складанасці і прапанаваць мудрае выйсце.*

*Пазней праз яе сербскіх сяброў я пазнаёміўся з багатымі навуковымі набыткамі Яскевіч. Яе навуковыя працы (з дзесятак кніг, каля 400 артыкулаў) падпарадкаваны звышзадачы: вылечыцца ад хваробаў нашага часу, пазбегнуць прыкрых памылак у нацыянальным і культурным жыцці. Наблізіцца да вытлумачэння супярэчнасцей айчынных гісторыі і пісьменства немагчыма без усведамлення той цеснай узаемасувязі, якая існуе паміж традыцыямі філалогіі Новага часу і старабеларускай кніжнасцю. Толькі зварот да генетычных каранёў, сівой даўніны выратуе этнасы ад пакутлівых варункаў сучаснасці. Увачавідкі таму спадарыня Алена Яскевіч прапаноўвае распрацаваны ёю метад аб'яднанай філалогіі, што ўлічвае апошнія дасягненні сучасных гуманітарных навук.*

*Уражвае вытанчаны аналіз даследчыцы, калі багаслоўскімі поглядамі старабеларускіх кніжнікаў, духоўнымі пошукамі сучасных пісьменнікаў абумоўлены ўзаемаадносіны галоўных і эпізадычных герояў, змест, кампазіцыя, вобразнасць і мова твораў.*

*Мне, як выкладчыку паліталогіі і культуралогіі, імпануе прапанаваны спадарыняй Аленай разгляд гісторыі літаратуры і культуры як жыццядзейнасць асобных буйных постацей.*

*У працах даследчыцы звяртае на сябе ўвагу абноўленая канцэпцыя Адраджэння з улікам знаходак паўднёва- і заходнеславянскіх медыявістаў, якія тычацца гатычнага Рэнесанса. Пасля прац Алены Яскевіч славісты і медыявісты пачалі разглядаць духоўную і грамадска-культурную фазы ў нацыяннальным Адраджэнні, яго пераважна хвалевы характар у культуры народаў свету, якія склаліся і існавалі ў пакручастых гістарычных варунках.*

*Кнігі і артыкулы падзвіжніцы славянскай медыявістыкі пераканалі мяне, католіка па веры, што стрыжань беларускай культуры склала магутная артадаксальна-праваслаўная традыцыя, вузлавыя этапы ў якой — навукова-асветніцкія гурткі слынных у славянскім свеце Сергія Кімбара, Елісея Плецянецкага, Лазара Барановіча, дзейнасць выкладчыкаў Астрожскай і Кіева-Магілянскай духоўных акадэмій.*

*Манаграфія Алены Яскевіч ахоплівае нацыянальную кніжнасць ад яе этнічных вытокаў, архетыповых постацей старабеларускага Адраджэння да пакутлівых роздумаў беларускіх пісьменнікаў канца тысячагоддзя. Яднае ж старажытнага кніжніка і сучаснага пісьменніка нацыянальная мова з яе універсальнай і анталагічнай глебай.*

*Нацыянальная кніжнасць адчыніла шчырай рупліўцы дзверы сваіх скарбаў. Яна ж ... запрашае, у сваю чаргу, чытача ў гэты чароўны свет.*

**Яраслаў ЧЫКВІН,**
**доктар гуманітарных навук, прафесар, член-карэспандэнт Славянскай акадэміі Расіі.**

## У СКАРЫНАЎСКІМ ЦЭНТРЫ

# АНГЛАМОЎНЫ ВАРЫЯНТ «КАНТАКТАЎ І ДЫЯЛОГАЎ»




CONTACTS and DIALOGUES. 2000. № 1—2.

**Belarusian Culturalogical Information Analitical Bulletin.**

Нарэшце ажыццявілася мара беларускіх інтэлектуалаў пра выданне англамоўнага варыянта культуралагічнага і інфармацыйна-аналітычнага бюлетэня "Кантакты і дыялогі", які выходзіць на беларускай мове вось ужо чатыры гады. Яго заснавальнікам была Міжнародная асацыяцыя беларусістаў (МАБ), а нязменным рэдактарам — вядомы беларусіст, доктар філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс. Менавіта ён спачатку выказаў ідэю, а затым імкнуўся падтрымаць практычна выхад у свет "Кантактаў і дыялогаў" на самай распаўсюджанай у свеце замежнай мове — англійскай. Выданне англамоўнага варыянта "Кантактаў і дыялогаў" павінна было спрыяць пашырэнню ведаў пра Беларусь, яе гісторыю, культуру, мову сярод зацікаўленых чытачоў у розных краінах свету. Беларускамоўныя "Кантакты і дыялогі" за апошнія гады знайшлі нямала ўважлівых і адданых чытачоў, аднак у той жа час мова выдання абмяжоўвала кола магчымых "спажывальнікаў" беларусазнаўчай інфармацыі.

Хочацца спадзявацца, што цяпер адначасовы выхад бюлетэня на дзвюх мовах дасць рэальную магчымасць выявіць, знайсці і шмат новых сапраўдных беларусістаў — г. зн. людзей, якім неабыякаı лёс нашай Бацькаўшчыны,

# ДАКУМЕТЫ АРХІВА БНР

## У ФОНДАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АРХІВА БЕЛАРУСІ

У Нацыянальным архіве (НА) Беларусі да гісторыі стварэння і існавання БНР прама ці ўскосна маюць дачыненне дакументы 7-мі фондаў (№№ 325, 827, 864, 311, 455, 458, 459, а таксама 250, воп. 6, спр. 135). Асноўны фонд за № 325 "Рада Народных Міністраў БНР" утварыўся шляхам аб'яднання фондаў 62 і 325, адпаведна былых Партархіва і Цэнтральнага дзяржаўнага архіва Кастрычніцкай рэвалюцыі (ЦДАКР) БССР у 1996 годзе. Безумоўна, гэта найбольш значная частка дакументаў па гісторыі БНР з матэрыялаў, якія знаходзяцца на захоўванні ў архівах Беларусі. Дакументальныя матэрыялы фонду склаліся ў выніку дзейнасці ўстаноў і арганізацый падчас існавання БНР. Па стану на 1 сакавіка 1996 года ў фондзе адзін вопіс, які ўключае 229 спраў за 1917—1925 гады, у тым ліку пераклады некаторых дакументаў з замежнай мовы на рускую.

Дакументы архіва БНР падзяляюцца на некалькі структурных частак. Перш за ўсё, гэта матэрыялы, якія адлюстроўваюць унутрыпалітычныя абставіны на Беларусі ў 1917—1918 гадах і першыя крокі ўрада БНР, накіраваныя на будаўніцтва незалежнай і суверэннай рэспублікі. Крайнія даты фонду (1917—1925 гады) у асноўным адпавядаюць гістарычнаму перыяду існавання БНР, гэта значыць ад снежня 1917 года да кастрычніка 1925-га. Менавіта старшыня ўрада БНР (1923—1925) А. Цвікевіч адзначаў, што ад Лютаўскай да Кастрычніцкай рэвалюцыі вялася падрыхтоўка да склікання ў снежні 1917 года "Усебеларускага Кангрэса, ад якога вядзе свае існаванне БНР". У фондзе маюцца пастанова Беларускага абласнога камітэта (БАК) пры Усерасійскім Савеце сялянскіх дэпутатаў ад 27 лістапада 1917 года аб скліканні Усебеларускага з'езда, пратаколы пасяджэнняў вайсковай секцыі, фракцыі левай плыні з'езда, пратакол 1-й рэзалюцыі, а таксама дакумент аб шасці ўмовах дагавора паміж БАК і Наркамнацам аб правядзенні з'езда. На жаль, стэнаграма з'езда не захавалася. Нацыянальны архіў мае адзіны нумар газеты "Беларуская Рада" з падрабязным перакладам пасяджэнняў з'езда, зробленым адным з яго ўдзельнікаў — капітанам Яўгенам Ярушэвічам. У ноч з 17 на 18 снежня з'езд быў разагнаны па загаду СНК Заходняй вобласці і фронту. Захаваўся рукапісны дакумент сведкаў гэтай гвалтоўнай акцыі, і нават па "гарачых слядах" рэвалюцыйны трыбунал правёў следства (справа "Крывашэін — Злобін").

Калі з канца лютага да снежня 1918 года значная частка тэрыторыі Беларусі была акупіравана нямецкімі войскамі, урад БНР спрабаваў стварыць адпаведныя формы незалежнай дзяржавы. 11 кастрычніка 1918 года Рада БНР зацвердзіла часовую Канстытуцыю Беларусі, аснову якой склалі палажэнні Устаўных грамат, прынятых 21 лютага, 9 і 25 сакавіка 1918 года. Архіў захоўвае арыгінал 1-й Устаўнай (ці Статутнай) граматы, у якой гаворыцца аб стварэнні першага ўрада Беларусі — Народнага Сакратарыята. Найбольш значным дакументам па гісторыі БНР з'яўляецца 3-я Устаўная грамата да народаў Беларусі, якая абвяшчала незалежнасць рэспублікі і вызначала яе межы.

У матэрыялах фонду захавалася шмат дакументаў, якія адлюстроўваюць захады Рады БНР па ўсталяванню дыпламатычных адносін. Найбольшая актыўнасць урада за мяжой прыйшлася на перыяд з 1919 па 1921 год, а пасля ідзе на спад. Дыпламатычныя ўстановы БНР, арганізаваныя ў розных краінах, былі прызнаны дэ-юрэ ці дэ-факта. Аднак прызнанне дзяржаўнасці БНР на міжнародным узроўні залежала ад краін Антанты. Так, прадстаўнік БНР у Даніі А.П'янкоў у пісьме, накіраваным шэфу Вайскова-дыпламатычнай місіі (ВДМ) у Латвіі і Эстоніі К. Езавітаву, адзначаў: "Вопрос об отрытии здесь (у Капенгагене, Данія) Консульства или вообще представительства от Белоруссии не может быть разрешен в данный момент, ибо Белоруссия остается по сию пору не признанным государством со стороны Антанты, по-прежнему служащей в скандинавских странах политическим барометром". Тым не менш, прадстаўніцтвы БНР, консульствы і місіі дзейнічалі на Украіне (у Кіеве, Адэсе), пры ўрадзе Літвы (Міністэрства беларускіх спраў у Вільні), ВДМ пры ўрадах балтыйскіх дзяржаў у Рэвелі, урадах Фінляндыі, Чэхаславакіі, у Балгарыі і на Балканах, Генеральнае консульства ў Турцыі (у Канстанцінопалі), Прадстаўніцтва ў Германіі (у Берліне), а таксама ў Расіі (у Маскве, Растове, Стаўрапалі). У дакументах фондаў знайшла адлюстраванне дзейнасць наступных устаноў: ВДМ БНР у Латвіі і Эстоніі і яе пашпартных аддзелаў у Лібаве і Рэвелі, дыпламатычных місій, прадстаўніцтваў і консульстваў БНР у Коўне, Рызе, Празе, Сафіі, Берліне, Канстанцінопалі, Кіеве і Адэсе; беларускіх прэс-бюро ў Коўне, Рызе, Берліне, Празе, Капенгагене і Рэвелі; Беларускага гандлёвага камітэта ў Капенгагене, Беларускай паштовай канторы ў Коўне і некаторых іншых.

Спрыяльныя адносіны ўсталяваліся паміж урадам БНР і Літоўскай Тарыбай. Пры ўрадзе Літвы было арганізавана Міністэрства беларускіх спраў на чале з І. Варонкам, якое праіснавала да 20 сакавіка 1924 года. Некаторыя дакументы гэтага перыяду маюцца ў асабістым фондзе К. Езавітава: часовае палажэнне аб Міністэрстве беларускіх спраў ад 29 ліпеня 1919 года, закон аб перадачы зямлі, Указ аб урэгуляванні зямельных адносін у вызваленых ад бальшавікоў абласцях Літвы, дакументы адміністрацыйнага характару.

Сярод іншых дакументаў архіва БНР маюцца копіі праграм, статутаў беларускіх нацыянальных партый і аб'яднанняў, заявы па розных грамадска-палітычных падзеях.

З Прадстаўніцтвам у Германіі ў некаторай ступені звязаны лёс архіва БНР. Так, у сакавіку 1921 года кіраўнік Прадстаўніцтва А. Бароўскі атрымаў ад дзяржаўнага кантралёра Л. Зайца на часовае захаванне архіў Рады Народных міністраў за 1918—1921 гады. Найбольшую каштоўнасць гэтага архіва ўяўляюць пратаколы пасяджэнняў Народнага Сакратарыята БНР за 1918 год агульнай колькасцю 104 пратаколы, копіі дыпламатычных актаў за 1919 год, справы Рады БНР і Рады Народных міністраў за першую палову 1920 года і іншыя дакументы, якія маюць дачыненне да дзейнасці ўрада БНР за 1918—1920 гады. Трэба падкрэсліць, што ў архівах Беларусі да цяперашняга часу не знойдзены дакументы гэтай часткі архіва БНР. Можна меркаваць, што яны знаходзяцца на захоўванні ў архівах краін як далёкага, так і блізкага замежжа.

Працягваючы размову пра лёс архіва, пададзім яшчэ некаторыя факты. Як гаварылася раней, сучасны аб'яднаны фонд склалі дзве часткі. Адна з іх, фонды былога ЦДАКР БССР, атрыманыя ў 1965 годзе з архіваў Масквы, якія да 1987 года знаходзіліся ў спецсховішчы. Другая — фонд 62-гі былога Партархіва. Дагэтуль застаецца адкрытым пытанне аб тым, як трапіў архіў БНР у Партархіў пры ЦК КП(б)Б. Дакладна вядомы толькі той факт, што 27 чэрвеня 1937 года Партархіву была перададзена на захаванне частка дакументаў за 1920—1921 гады. Усяго паступіла 190 спраў, якія склалі фонд 62 пад назвай "Беларуская Народная Рада". Якім чынам і хто перадаў архіў Гістпарту, невядома, але ёсць меркаванне, што дакументы

якім яўляюцца цікавымі і багатымі культурныя здабыткі нашага таленавітага і шматпакутнага народа. У першым здвоеным нумары англамоўных "Кантактаў і дыялогаў" змешчаны найбольш цікавыя, змястоўныя (на думку рэдакцыйнай калегіі, куды ўваходзяць такія вядомыя беларускія і замежныя даследчыкі, як А. Баршчэўскі (Польшча), Джэймс Дзінглі (Вялікабрытанія), А. Лапінскене (Літва), Ю. Лабынцаў (Расія) і іншыя) артыкулы, допісы, прысвечаныя аналізу розных актуальных пытанняў гісторыі Беларусі, беларускай культуры і мовы. Сярод аўтараў данага выдання — айчынныя гісторыкі, філосафы, філолагі: Захар Шыбека, Уладзімір Конан, Генадзь Цыхун, Анатоль Грыцкевіч, а таксама замежныя беларусісты Ян Запруднік (ЗША), Васіль Пуцко (Расія), Марыян Фукс (Польшча) і іншыя. У кароткай прадмове да чытачоў рэдактары данага выдання адзначаюць, што адной з галоўных мэтаў бюлетэня з'яўляецца як мага больш аператыўнае і глыбокае інфармаванне замежных чытачоў пра найбольш важныя падзеі ў галіне беларуска-іншаэтнічных узаемаадносін, пра асноўныя дасягненні ў сферы беларусазнаўчых даследаванняў.

**Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

былі прывезены ў Мінск адвакатам У. Пракулевічам пасля самаліквідацыі ўрада БНР у кастрычніку 1925 года.

Іншыя фонды Нацыянальнага архіва РБ, якія маюць дачыненне да гісторыі БНР, лагічна звязаны з папярэднім і дапаўняюць яго. Гэта згаданы ўжо фонд К. Езавітава, а таксама В. Русака і Е. Канчара. Фонд К. Езавітава змяшчае матэрыялы аб яго дзейнасці на пасадах міністра па вайсковых справах ва ўрадзе БНР, шэфа ВДМ БНР у Латвіі і Эстоніі, яго артыкулы аб фактах з польскай акупацыі 1918—1919 гадоў па школьнай справе, перапіску беларускіх дзеячаў з Езавітавым і [illegible]аторыя іншыя матэрыялы. Частка дакументаў таварыства"Беларуская Рада" ў Чэхаславакіі, а таксама пратаколы і рэзалюцыі пасяджэнняў замежнай групы БПС-Р адлюстраваны ў фондзе В. Русака. Нарэшце, багаты фактычны матэрыял захоўваецца ва ўспамінах і запісках вядомага беларускага палітычнага дзеяча Я. Канчара. У прыватнасці, яго ўражанні аб скліканні і правядзенні 1-га Усебеларускага з'езда, нататкі па нацыянальнаму пытанню і гісторыі стварэння БССР (1918—1919).

Падсумоўваючы вышэйсказанае, трэба адзначыць, што ў пачатку 90-х гадоў былі апублікаваны галоўныя дакументы архіва БНР, іншыя засталіся па-за ўвагай. Нават беглы погляд на змест спраў вышэйпамянёных фондаў дазваляе зрабіць выснову аб шматбаковай дзейнасці ўрада БНР. Па гэтай прычыне архіўныя справы патрабуюць яшчэ дэталёвай распрацоўкі. І апошняе: кожны дакумент мае свой тэрмін захоўвання. На вокладках спраў архіва БНР вялікімі літарамі значыцца: "захоўваць пастаянна", бо гэта наша гісторыя.

**Уладзімір КУШМІРАЎ,**
**галоўны архівіст**
**Нацыянальнага архіва**
**Рэспублікі Беларусь.**

**ГАСЦЁЎНЯ**

# «НАСТУПНЫМ ДНЁМ ВЯСНА»

# ПРАКЛАДАЕ СВОЙ ШЛЯХ

***Фабрыса Карэя можна назваць французскім беларусам. Завітаўшы ў Мінск на некалькі месяцаў, каб павучыцца акцёрскаму майстэрству і рэжысуры, малады француз "затрымаўся" ў Беларускай акадэміі мастацтваў на сем гадоў. Далей ён вырашыў не спыняцца на дасягнутым. Зрабіўшыся дыпламаваным спецыялістам, Фабрыс Карэй стварыў беларуска-французскую тэатральную асацыяцыю з рамантычнай назвай "Наступным днём вясна". І зараз сваю смелую ідэю ён энергічна ўвасабляе ў жыццё, курсіруючы з Мінска ў Парыж, з Парыжа ў Мінск.***

***Першы праект — гастролі беларускага студэнцкага тэатра ў 1995 годзе ў Францыі і прадэманстраваны там спектакль "Апошні месяц" — быў удалым. Гэта надало новы імпульс творчай ініцыятыве Фабрыса і яго беларускім сябрам. Разам са сваім аднакурснікам Сяргеем Тарасюком ён рыхтуецца да правядзення гэтым летам стажыроўкі французскіх акцёраў і студэнтаў у Беларускай акадэміі мастацтваў. У сваю чаргу, дзякуючы ініцыятыве Фабрыса Карэя, беларускія выкладчыкі і акцёры маюць магчымасць выязджаць у Францыю і перадаваць свой вопыт і веды французам.***

***Наперадзе новы смелы праект — работа над камедыяй-бурлескам па п'есе сучаснага аўтара з Люксембурга Клода Фрызоні "Канец свету прызначаны на наступны дзень, калі час дазволіць...", які будзе паказаны ў красавіку 2000 года ў Парыжы, а потым, пасля турнэ, у Мінску ў красавіку 2001-га...***

***Такім чынам, прыезд у Беларусь пасля вучобы акцёрству і рэжысуры ў Парыжы і Партугаліі для Фабрыса Карэя — сына музыкантаў, якія працяглы час працавалі ў Індыі, на Таіці, стаў шчаслівым здарэннем, але ён лічыць, што выпадковасцей у жыцці не бывае, усё ў ім заканамерна.***

— У першы момант, калі я толькі наладзіў зносіны са сваімі аднакурснікамі ў Мінску, — прыгадвае Фабрыс, — мне было ніякавата бачыць (і гэта выклікала ў мяне нейкі боль), што людзі не хочуць марыць. Дакладней, яны не дазваляюць сабе марыць. Гэта быццам бы нешта немагчымае. Калі на поўны голас марыш, гэта ніколі не здзейсніцца. Трэба марыць, але ціха-ціха. Так ціха, каб ніхто не пачуў, не даведаўся. Для мяне гэта было незразумелым. Таму што ў Францыі вельмі лёгка марыць. У нас людзі вольныя ў сваім выбары. Думаю і заўсёды так буду думаць, што калі чалавек хоча нешта зрабіць, ён можа здзейсніць тое, што задумаў. Ён проста павінен зрабіць усё магчымае, каб жыць менавіта так.

Вось чаму для мяне праект стварэння нашай асацыяцыі быў так прынцыпова важны. Я хацеў, каб беларускія студэнты, якія мелі вялікія здольнасці, але сябе самаізалявалі, не палохаліся праявіць сваё "Я".

**— Гэта была ваша асноўная мэта?**

— Так. Маёй задачай было паказаць, што няма нічога немагчымага. Трэба проста марыць і рабіць. Мы пачалі са стажыровак французаў у Мінску, выкладання акцёрскага майстэрства беларускімі навукоўцамі і студэнтамі ў Францыі, каб потым ствараць спектаклі, дзе будуць прымаць удзел і французы, і беларусы. А пасля паказваць нашы сумесныя работы ў Францыі і Беларусі.

**— Для ажыццяўлення падобнага праекта, відаць, патрэбна апроч усяго і пэўная фінансавая база. Хто падтрымлівае вашы пачынанні?**

— У нас ёсць спонсар — французская фірма "Інтэркар", якая ажыццяўляе аўтобусныя перавозкі з Беларусі ў Заходнюю Еўропу. Нас падтрымлівае таксама французская амбасада ў Мінску. Але ж мы імкнёмся дасягаць усяго ўласнымі намаганнямі.

**— На вашу думку, праект мае шанцы ўвасобіцца ў штосьці больш значнае? Напрыклад, у стварэнне новага тэатра?**

— Магчыма... Пакуль мы маем студыю, ідзе падрыхтоўчы працэс. Каб стварыць уласны тэатр, патрэбны час, агульнае разуменне таго, чаго мы хочам. Неабходна напрацоўваць вопыт, узаемаразуменне паміж французамі і беларусамі. Пакуль жа мы знаходзімся ў стадыі пошуку...

**— Французы заўсёды вызначаліся наватарствам. Сучаснае мастацтва шмат чаго дасягнула дзякуючы ім. Беларусы таксама не пазбаўлены наватарскага падыходу да справы, але яны па сваёй натуры больш кансерватары. Ці можа, на ваш погляд, спалучэнне кансерватызму і наватарства прынесці штосьці пазітыўнае і неардынарнае?**

— Я не магу сказаць, што людзі тут не наватары. Яны таксама вельмі вынаходлівыя. У нас шмат на якія рэчы патрэбныя грошы, патрэбна рэклама, а тут з нічога робяць штосьці надта цікавае. На мой погляд, у мастацтве не заўсёды грошы маюць вырашальны сэнс. Галоўнае ў нашым выпадку, што мы можам мець дачыненне адзін да аднаго, сябраваць і вучыцца. Акцёры, якія тут працуюць, валодаюць цудоўнай тэхнікай і адораны вялікімі здольнасцямі, але ў іх няма магчымасці самарэалізавацца. Мы ж у Францыі можам рабіць усё, займацца свабодна творчасцю, але нам часам нестае тэхнікі. І сустрэчы на такім узроўні цікавыя, таму што яны дапамагаюць вам атрымаць тое, чаго ў вас няма. Вы працяглы час былі закрытым грамадствам. У нас не было магчымасцей кантактаваць. А ў вас ёсць тое, чаго ў іншым месцы не знайсці. Таму такія важкія гэтыя кантакты: людзі маюць магчымасць ісці далей, каб заўсёды быў прагрэс, што важна і для вас, і для нас.

Я прыехаў у Мінск, як памятаю, у кастрычніку, калі ў Маскве адбыўся путч. У першы дзень глядзеў спектакль, які паказвалі студэнты майго будучага курса. Ён мне спадабаўся. Я прыгадаў, што дзесьці ў 91-м годзе бачыў відэазапіс, зроблены французскай групай, якая пабывала ў акадэміі. Ужо тады я зацікавіўся і вырашыў: абавязкова наведаю Беларусь. І вось я прыехаў. Гляджу на студэнтаў, якія іграюць у спектаклі, і разумею: гэта маладыя людзі, што засняты на той плёнцы... І адразу з'явілася думка: паеду адсюль не хутка.

Я глядзеў, як іграюць акцёры на рускай мове, якой я тады не разумеў, і ў мяне было адчуванне: калі ідэя і ўвасабленне добрай якасці, тады гэта зразумела для ўсіх.

**— Зараз вы самі працуеце над пастаноўкай спектакля "Канец свету прызначаны на наступны дзень, калі час дазволіць..." У якой стадыі знаходзіцца ажыццяўленне гэтага праекта?**

— Распрацоўваюцца строі да спектакля, ідуць рэпетыцыі. Гэта будзе камедыя-бурлеск, своеасаблівая пародыя на ўладу на Захадзе. Сяргей Тарасюк іграе ў ёй прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі. Нашу новую працу ўбачаць гледачы як у Парыжы, так і ў Мінску.

**— Зусім не выключана, згодна з вашай тэорыяй, што асацыяцыя "Наступным днём вясна", падобна імпрэсіяністам у свой час, ствараючы новы тэатр, зробіць рэвалюцыю ў сучасным мастацтве... І ўсё ж французская і беларуская акцёрскія школы такія розныя... Што можа іх паяднаць?**

— Ведаеце, калі б я быў беларусам, я не вучыўся б за мяжой. Нельга губляць тое, што ёсць тут. Школы нельга губляць. І гэта тычыцца ўсіх мастацтваў. Я лічу (а ў мяне ёсць з чым параўноўваць): беларусы, якія імкнуцца паступіць у французскія тэатральныя школы, робяць не зусім правільна. Толькі тады, калі малады беларус атрымае адукацыю тут, ён можа ехаць у іншую краіну: у яго будзе багаж, які ён не атрымае нідзе болей.

Што тычыцца спалучанасці паміж акцёрскімі школамі, то тут не ўсё проста. Розныя падыходы. Розныя шляхі, светапогляды. Таму патрэбна студыя. Трэба працаваць. Менш слоў, больш справы... І зусім не выключана, што мы знаходзімся ля вытокаў нейкага новага накірунку ў сучасным тэатральным мастацтве...

**— Дзякуй за інтэрв'ю. Поспехаў вам!**

**Гутарыла**
**Наталля КІРЫЧЭНКАВА.**














**НА ЗДЫМКАХ: афіша спектакля "Канец свету прызначаны на наступны дзень, калі час дазволіць..."; эскізы касцюмаў да новага спектакля; на рэпетыцыі.**

**Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.**

ФЕСТЫВАЛІ



# «БЕЛЫ ЗАМАК», або ГУЛЬНІ НАШАЙ МОЛАДЗІ

Тры дзяўчынкі са смехам мільгалі паўсюдна сярод гасцей. Усё для іх было тут новым, незнаёма прыцягальным: і бразгат жалезных даспехаў, і ганарлівы, часам гарэзлівы позірк іх уладароў, і ззянне жаночых убораў, паважная паходка дам.

Прыкмецілі... Слаўны воін, сам магістр ордэна жартаўліва паабяцаў забраць у свой гарэм. Тут бы ўсміхнуцца, пачаць размову. Ды не, ты ж паважная дама, пятнаццацігодка. Цябе абразілі (на самай справе, проста хочацца гуляць)! І ты бяжыш да знаёмага слаўнага воіна, непераможнага Сярпуція і скардзішся на сваё "гора".

...Мінула некалькі гадоў ад майго першага балю. Крыху затуманіліся парывы летуценнасці.

Рыцарскі фестываль "Белы замак" пачаў праводзіцца з 1997 года. Традыцыйна — зімой, у Палацы дзяцей і моладзі горада Мінска. Арганізоўвае яго вядомы многім Ордэн дракона на чале з магістрам, сэрам Гаўфруа дэ Монмерайль (у рэальным жыцці — Зміцерам Несцюком).

На сёлетні фестываль было запрошана больш за 20 рыцарскіх клубаў з Масквы, Казані, Тулы, Санкт-Пецярбурга, Рыгі, Астрахані... Беларусь прадстаўлялі мінскія клубы: "Княжаскі Гуф", "Чорныя драбы", "Срэбны адзінарог", "Кап'ё", "Дзікае паляванне", Беларускі рыцарскі клуб і сам ордэн "Сэрца дракона". Прыехалі клубы з Гомеля: "Выток вятроў", клуб Алега Святаславіча; рэчыцкі клуб "Тэра", пінскі "Радагас".

Дзейнасць пераважнай большасці клубаў, за выключэннем, бадай, "Срэбнага адзінарога" і "Тэры", скіравана на рэстаўрацыю і рэканструкцыю гістарычна дакладнага тыпу чалавека VIII—XV стагоддзяў, а некаторыя прысвяцілі сваю дзейнасць аднаўленню традыцый Усходняй Еўропы і Японіі.

Цягнулася свята-сустрэча тры дні, і наўрад ці магчыма вызначыць, які дзень быў цікавейшым. Першы — у большасці сваёй узрушыў менавіта самім фактам існавання фестывалю рыцараў у наш празаічны час. Не верылася, што на беларускай зямлі адначасова можа сабрацца столькі апантаных гісторыяй людзей, якім не трэба тлумачыць адзін аднаму, што ты не дзівак, што ты гэтым жывеш. З цярплівасцю чакалі конкурсу строяў, не для таго каб перамагчы, а каб павучыцца. У склад журы ўваходзілі вядомыя людзі: Юрый Піскун — мастак, аўтар строяў для знакамітых "Харошак", намеснік дырэктара Нацыянальнага мастацкага музея, выкладчык кафедры мадэліравання адзення Беларускай акадэміі мастацтва; Алесь Пушкін — мастак; Ганна Барвінава — спецыяліст па гісторыі беларускага касцюма, выкладчыца універсітэта культуры. Былі пераможцы. Першую прэмію павёз дадому гомельскі клуб Алега Святаславіча за рэстаўрацыю строя воіна ВНП. Другую прэмію прысудзілі санкт-пецярбургскаму клубу "Чорны воран" за калекцыю "Эпоха вікінгаў Х стагоддзя". Мінскі ордэн атрымаў прэмію за рэканструкцыю адзення бургундскай моды XV стагоддзя, а таксама за эфектнасць касцюма і яго паказу. Гледачам жа больш спадабалася ідэя вопраткі Мурзы з клуба "Віцязь" горада Казані. У захапленні былі ад артыстычнай маленькай дзяўчынкі ў касцюме дамы XV стагоддзя са Светлагорска.

Адпачыць напрыканцы першага дня дапамог цудоўны гомельскі гурт "Рэйвіт".

Прыхільнікі якога-небудзь віду спорту хутчэй зразумеюць пачуцці тых, хто з увагайназіраў за самім турнірам, вядзеннем бою па правілах, не менш жорсткіх, чым у даўніну, хіба што галовы заставаліся цэлымі. Бліжэй да вечара, пераадолеўшы сваіх сапернікаў, у фінальным баі сустрэліся Дзінар з "Віцязя" (Казань) і князь Уладзімір з "Крэпасці" (г. Тула). Тут бы захапіцца сілай і трываласцю герояў, усхваляць іх фехтавальнае майстэрства. Ды не, проста было шкада гэтых стомленых юнакоў, якія зноў і зноў дзеля забавы гледачоў і дзеля сваёй годнасці мусілі ўздымаць нялёгкія мячы і імкнуліся ўдарыць праціўніка. Не абышлося і без рэальнага "засудзілі", калі трэнер князя Уладзіміра не пагадзіўся з вынікам з-за таго, што маршалам быў Хабар Мурза з клуба саперніка. Прызначылі іншых маршалаў. І многія (бо большасць сімпатызавала рускаму воіну) былі рады, калі ўрэшце перамога была за ім. Святіўся і трэнер. Хацелася выказаць яму сваёй захапленне, проста сказаць нешта прыемнае. "Мы — прафесіяналы", — адказаў ён, быццам так і павінна было быць.

А каралевай турніру князь Уладзімір, як пераможца, абраў не даму, а звычайную дзяўчынку, якая, можа, значна больш за іншых верыла ў яго перамогу.

**Злата ГУРЫНОВІЧ, студэнтка БДУ.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





КРЫЖАВАНКА

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 7. Марка беларускага халадзільніка. 8. Даўганосы, даўганогі ляціць, звініць, хто яго заб'е, той сваю кроў пралье (загадка). 9. Рака ў Беларусі і Літве. 10. Магазін, лаўка. 12. Дзяржава ў Азіі. 15. Населены пункт. 16. Англійскі мараплавец XVIII стагоддзя. 18. Французскі кампазітар, аўтар оперы "Фауст". 19. Бервяно, тоўсты брус, умацаваны вертыкальна. 21. Жывёліна сямейства кошак. 23. Палявая кветка. 25. Вялікая рыбалоўная сетка. 27. Расліна сямейства бабовых. 28. Гатунак яблыкаў. 29. Балет Я. Глебава. 30. Выбуховае рэчыва. 33. Мяккая ворсавая скура з аксамітнай паверхняй. 35. Беларускі кампазітар. 37. Жывёліна сямейства зайцаў. 38. Чыстая вага без тары. 39. Хімічны элемент. 41. Прыток Волгі. 43. Лісцевае дрэва. 45. Рака ў Закаўказзі. 47. Ільдзіна на рацэ, на моры. 49. Тое, што і бакал. 50. Раённы цэнтр у Віцебскай вобласці. 51. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 1. Рака ў Вілейцы. 2. Малая планета. 3. Пачатак дня. 4. Возера ў Барысаўскім раёне ў басейне ракі Бярэзіна. 5. Горная сістэма ў Паўднёвай Амерыцы. 6. Ручная агнястрэльная зброя. 10. Знак прыпынку. 11. Бог кахання ў антычнай міфалогіі. 13. Галіна вытворчасці, якая друкуе творы. 14. Плод кустовых і травяністых раслін. 17. Убранне, адзенне. 20. Матэрыял для пісьма ў старажытным Егіпце. 21. Складзеш — клін, разгорнеш — блін (загадка). 22. Пасажырская платформа на вакзале. 24. Майстар-ювелір XII стагоддзя, які зрабіў напрастольны крыж для Ефрасінні Полацкай. 26. Верхняя частка будынка. 27. Каштоўны выкапень, паліва. 31. Марка беларускіх цыгарэт. 32. Буйная кр дытная ўстанова. 34. Даўней: няміласць, гнеў цара. 35. Павелічальнае шкло ў аправе. 36. Спартыўны абутак. 40. Старажытная залатая і сярэбраная манета ў Еўропе. 41. Род ядавітай змяі. 42. Гарманічнае спалучэнне некалькіх музычных гукаў рознай вышыні. 44. Фаза Месяца, калі бачны ўвесь яго дыск. 46. Адбіццё гуку ад прадметаў, водгук. 48. Тоўсты сук дрэва.



**Склала Святлана ФАЦЕЕВА.**

КОРАТКА

**ЛОЎЛЯ ШЧУПАКА — ПАД ЗАБАРОНАЙ.** Па 31 сакавіка на ўсёй тэрыторыі Беларусі забаронена лоўля шчупака (на перыяд нерасту). У апошнія гады спецыялісты вымушаны канстатаваць: папуляцыя біялагічнага "меліяратара", які садзейнічае агульнаму аздараўленню вадаёмаў, пакрыху змяншаецца. Шчупак аднаўляецца натуральным шляхам, а не праз штучнае зарыбленне (напрыклад, як вугор) і не паспявае павялічваць сваю папуляцыю.

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара Галіна УЛІЦЁНАК.
Адказны сакратар Таццяна КУВАРЫНА.
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі Яўген ЛЕЦКА.
Рэдактар аддзела Алена СПАСЮК.
Аглядальнікі Юрась ЛЯШКЕВІЧ, Леанід МАРАКОЎ, Таццяна ХРАПІНА.
Спецыяльныя карэспандэнты Нэлі ПРЫВАЛАВА, Віктар СТАВЕР.
Рэдактар-перакладчык Святлана КАРПУЧОК.
Стыльрэдактар Ірына КАЗЛОВА.
Тэхнічны рэдактар Данута РАКАВЕЦ.

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 828 экз.
Зак. 767.
Падпісана да друку 20.3.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).